АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

4 — 10 ЧЭРВЕНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№23 (215)

ТРАГЕДЫЯ

## Смерць не абмінула Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА. Трагедыя ў Мінску не абмінула горад. Сярод загінуўшых на станцыі метро "Няміга" была 18-гадовая маладзечанка **Анастасія Бельская**, навучэнка палітэхнікума. Адзіная дачка ў бацькоў, яна па выпадковым збегу абставінаў была ў Мінску на паўгадавой вучэбнай практыцы на камбінаце хлебапрадуктаў. Бацькі, сваякі, сябры, знаёмыя развіталіся з Анастасіяй у аўторак.

Маладзечанскі гарвыканком усе дні пасля жудаснай трагедыі падтрымлівае сувязь з Мінгарвыканкомам. Сярод ахвяраў на станцыі метро Анастасія Бельская, па іх дадзеных, была адзінай з Маладзечна. Лічба ў тры чалавекі не пацвярджаецца. Ёсць выпадкі звычайнага супадзення імёнаў і прозвішчаў. Да таго ж, імёны ўсіх пацярпелых пакуль невядомыя.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Смаргонцы ездзяць любяць

Парадокс, але ў адрозненне ад многіх раёнаў Беларусі, дзе прыгарадныя аўтобусы па некаторых будніх днях увогуле стаяць на прыколе, на Смаргоншчыне пасажырскія перавозкі павялічваюцца: і па працягласці маршрутаў, і па колькасці пасажыраў. Аўтобусы тут не маюць адпачынку ні ў адзін дзень тыдня.

За тры месяцы аўтобусамі перавезена 1698 тысяч пасажыраў ці на 15% больш, чым за такі ж перыяд мінулага года.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## З палякамі паразумеліся

Днямі сюды наведаліся прадстаўнікі Хельсінкскага фонду Польшчы Марэк Шымчык і Адам Домбжак.

Яны сустрэліся з актывістамі палітычных і грамадскіх партый Маладзечна і Вілейкі. Разам абмеркавалі пытанні па правах чалавека, як іх разумеюць грамадзяне Польшчы і Беларусі.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Выпуснік школы стаў прафесарам


Падчас сустрэчы.
ФОТА З АРХІВА ВІКТАРА ШОЦЬ.

У чытальнай зале цэнтральнай раённай бібліятэкі прайшла сустрэча вучняў старэйшых класаў СШ №2 з былым выпускніком, а цяпер прафесарам – Аляксандрам Катэнкам. Аляксандр нарадзіўся ў мястэчку Іўе, аднак лічыць сябе смаргонцам, бо тут жыў з пяцігадовага ўзросту.

З 1983 года ён на выкладчыцкай рабоце, абараніў дысертацыю на тэму "Баявая вывучасць сістэмы кіравання лятальных апаратаў" і стаў кандыдатам тэхнічных навук. З 1992 года выкладае ў Ваеннай акадэміі РБ. У 1995 годзе стаў прафесарам авіяцыйнага факультэта прэстыжнай навучальнай установы.

Падрыхтавала і правяла гэту сустрэчу работнік бібліятэкі Святлана Дугаржавіна.

*Віктар ШОЦЬ.*

ВАЛОЖЫН

## Ганарыся «Гаспадаром»

Па вуліцы Партызанскай адчыніўся новы магазін "Гаспадар". Тут можна набыць рэчы для хатняй гаспадаркі.

Асабліва высокі выбар тавараў для рамонтных работ. Магазін прыватны, афармлены і абсталяваны па сучасных еўрастандартах.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Вырас попыт на пэйджары

Канец навучальнага–пачатак экзаменацыйнага года вызначыўся павялічаным попытам на пэйджары.

З іх дапамогай прадпрымальныя школьнікі, навучэнцы і студэнты спакойна атрымліваюць інфармацыю па выцягнутых білетах – амаль як у "Аперацыі "Ы"..." (гукавы сігнал, натуральна, папярэдне адключаецца). Напэўна, не ўсякі выкладчык ведае, што там, у руках – калькулятар ці гадзіннік які?

*Аддзел інфармацыі.*

МЯДЗЕЛ

## Зваліся дажджы

Па дадзеных азёрнай станцыі «Нарач», у маі выпала ападкаў усяго толькі 16,2 мм.

Летась жа за гэты месяц іх было ў 7 разоў болей. А па шматгадовых назіраннях майская норма – 59 мм ападкаў.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

РЭПАРТАЖ З СІВОГА ВАЛОЖЫНА

# Святое месца

Валожын. Горад з адзінаццацітысячным насельніцтвам, былое мястэчка Вялікага Княства Літоўскага, былы цэнтр еўрапейскай іудзейскай адукацыі... Усё ў гісторыі гэтага горада звязана з яўрэямі, якія ў асобныя моманты складалі пераважную большасць насельніцтва гарадка.

Сёння ў Валожыне засталося чатыры–пяць яўрэйскіх сем'яў. Большасць з якіх – прыезджыя. Але ў кожным камені брукаванак Валожына, у старых дамах жыве памяць аб тым, калі на скрыжаваннях вуліц, у шматлікіх крамках гучаў разам з беларускай і польскай мовамі – ідзіш. На жаль, памяць часта суседнічае з бяспамяцтвам. Сёння мы пакажам толькі некалькі абразкоў з жыцця слаўнага горада, некалькі імгненняў з яго гісторыі.

Амаль у цэнтры Горада месціцца яўрэйскія могілкі, апошняе пахаванне на якіх было зроблена ў 1957 годзе. 13 снежня таго года памерла Сара Беркаўна Гафштэйн, пражыўшы на свеце 71 год. Яна была апошнім, хто знайшоў тут свой прытулак. Ёй яшчэ пашчасціла. Пашчасціла, што сучасныя вандалы не вывернулі з коранем помнік, адправіўшы на падмурак. Пашчасціла, што перажыла тысячы тых валожынскіх яўрэяў, якія былі спалены і расстраляныя ў Валожыне ў саракавыя гады немцамі. Пашчасціла, што за яе пахаваннем цяпер штогод даглядае яўрэйская моладзь, якая часам прыязджае з Мінска. Але што могуць зрабіць яўрэйскія дзеткі, прыехаўшы на колькі гадзін у Валожын дзеля дагляду магіл? Што можа зрабіць адзін з апошніх носьбітаў ідзішу не толькі ў Валожыне, а магчыма і ў Беларусі, васьмідзесяцігадовы даглядчык могілак Міхаіл Эльтэрман, з тымі вандаламі, якія і сёння перакульваюць надмагільныя камяні, выпасваюць коз на людскіх касцях?

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

*Сюжэты з Валожына сёння можаце прачытаць на 2–й і 3–й старонках.*


*Міхаіл Эльтэрман прыехаў у Валожын у пяцідзесятых з Гарадка пад Маладзечнам. Сёння Міхаіл Нотавіч даглядае могілкі, дзе пахаваныя разам з простымі гараджанамі і заснавальнікі Валожынскага ешыбота, чые імёны святыя для іудзеяў ва ўсім свеце.*


*Надмагільныя камяні не плачуць. Козы і авечкі на іудзейскіх могілках — звычайная справа. Урэшце, як і на хрысціянскіх, што на вуліцы Леніна, былой Зарэчанскай.*


*Ці думаў хто, што такой застанецца памяць тым валожынцам, што хадзілі тут, па гэтых вуліцах, дыхалі гэтым паветрам, працавалі, нараджалі дзяцей і марылі аб зямлі абяцанай? Відаць, заставаліся б гэтыя могілкі увогуле без увагі, калі б тут не былі пахаваныя продкі Шымона Перэса — выхадца з суседняга Вішнева і які тут быў падчас сваіх візітаў на Беларусь.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

100 ВЫПАДКОВЫХ ЗВАНКОЎ

## Стаўленне да адключэння гарачай вады

МАЛАДЗЕЧНА. Як звычайна, зроблена 100 тэлефонных званкоў па выпадковых нумарах.

Аказалася, што ў 70% ўжо ўключылі гарачую ваду (па плане павінны былі гэта зрабіць 3 чэрвеня), роўна палавіна з іх ужо "сагрэла" свае сэрцы і амаль што забылася на адключэнне. 20% лічаць, што можна было і хутчэй усё зрабіць.

60% апытаных ведаюць, навошта адключылі гарачую ваду, 35% – не ўяўляюць, а 5% выказваюць розныя версіі акрамя правільных.

Тыя 30%, што яшчэ не маюць гарачай вады, абураныя на краю, толькі былі, што ў многіх дамах яе ўжо ўключылі.

Адзін мужчына адказаў, што ён шмат вандруе па свеце, але такога не бачыў нідзе.

Яго думку падтрымала жанчына, якая адказала, што мае сяброў у замежных краінах і ведае, што такое бязмежжа можа быць толькі ў Беларусі.

*Анжаліка АРАБІНКА.*



ПАМЯЦЬ

## Куток Рушчыца ў Гальшанах

*У філіяле Нацыянальнага мастацкага музея у Гальшанах афармлены куток, які прысвечаны ўраджэнцу Валожыншчыны сусветна вядомаму мастаку Фердынанду Рушчыцу.*

Музей наведалі яго сын Эдвард і ўнук Фердынанд, якога назвалі ў гонар дзеда. Яны цяпер жывуць у Польшчы. Перадалі музею 16 каляровых рэпрадукцый з карцін мастака, некалькі кніг, манаграфіі Рушчыцы выдадзеных у Польшчы. Цяпер супрацоўнікі музея ладкоўваюць куток Рушчыца ў стылі таго часу.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

РЭПАРТАЖ З СІВОГА ВАЛОЖЫНА

# Будынак “Маці ешыботаў“ будзе адноўлены

ВАЛОЖЫН. На мінулым тыдні было ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку былога ешыботу – першай ў Еўропе вышэйшай навучальнай установы, якая фарміравала ўсходне-еўрапейскі іудаізм. У 2003 годзе адзначаць яе 200-годдзе.

Цяпер тут кулінарыя, але яна хутка пакіне будынак. Іудзейскае аб’яднанне збіраецца яго рэстаўраваць.

Мемарыяльную дошку на 3 мовах – іўрыце, рускай, англійскай вырабіў у Ізраілі наш зямляк **Мошэ Парат (Перскі)**, які паехаў з Валожына 53 гады таму. Заснавальнікам ешыбота быў яго прадзед.

На ўрачыстасць на зямлю бацькоў Мошэ прыехаў разам са сваякамі. Былі тут пасол Ізраіля ў РБ **Марцін Пялед-Флагс**, старшыня іудзейскага аб’яднання ў рэспубліцы **Юры Борн.**

***Наталля ШТЭЙНЕР.***



*Будынак валожынскага ешыбота, пабудаваны ў 1806 годзе і мемарыяльная дошка, устаноўленая тут на мінулым тыдні.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

### Даведка

Валожынскі ешыбот. Навучальная рэлігійная установа, якая дзейнічала ў Валожыне з 1803 года па 1892 год. Тут вучыліся студэнты не толькі з Заходняй і Сярэдняй Еўропы, але нават з Блізкага Усходу. Напрыклад, Сірыі. Будынак іешывы пабудаваны ў 1806 годзе. Выкарыстоўваўся па розных прызначэннях. У апошнія гады тут месціцца звычайная кулінарыя.

### На мемарыяльнай дошцы

Мемарыяльная дошка ўстаноўлена пры ўваходзе у памяшканне. На ёй ёсць словы: *“Валожынскі Ешыбот “Эу Гахаім“ – Дрэва Жыцця. Створаны ў 1803 годзе вялікім равінам Рабі Хаімам Валажынерам. У гэтых сценах навучаўся цвет яўрэйскай моладзі 19 стагоддзя. Празваны Маці ешыботаў...“*

МЕДЫЦЫНА

# Камісаваныя з-за дрэнных зубоў

МАЛАДЗЕЧНА. Напрыканцы мінулага года ў краіне выдадзены медыцынскі загад, згодна з якім прызыўнікоў з няправільным прыкусам сківіц не бяруць у армію. У вясновы прызыў маладзечанскі ваенкамат камісаваў з такой прычыны 12 хлопцаў (9 з горада і 3 з раёна), хаця рашэнне пакуль не пацверджана абласной медыцынскай камісіяй.

Калі ўлічыць, што нават з некаторымі хваробамі сэрца ды іншымі медкамісія прызыўнікоў не адсейвае, то дыягназ падаецца смешным. Раней непрыгоднымі для службы ў арміі лічылі хлопцаў, у якіх верхняя і ніжняя сківіцы ў прыкусе разыходзіліся больш чым на 12 мм, а цяпер - 5 мм. На гэтай падставе цалкам здаровых прызыўнікоў трэба камісаваць.

Галоўны ўрач дзіцячай стаматалагічнай паліклінікі **Валянціна Шкутава** прадбачыць, што жадаючых трапіць у спіс камісаваных ад службы ў арміі з гэтай нагоды можа быць шмат. Бо толькі цяпер больш за тысячу падлеткаў (хлопчыкаў і дзяўчынак) атрымліваюць артапедычную дапамогу, носяць пратэзы, каб параўнававаць сківіцы. І яшчэ столькі ж тых, каму дапамога медыкаў патрэбная.

Выраўнаваць сківіцы магчыма, калі чалавек сам жадае гэтага. А што рабіць з тымі, хто не жадае?

Штогод 92% школьнікаў па месцы вучобы саніруюць поласць рота. Гэта абавязковае стаматалагічнае абследаванне, калі ўрачы вызначаюць дыягназ, лечаць ці накіроўваюць на лячэнне. Але застаецца нейкі працэнт “адмоўшчыкаў”, якія не хочуць нават ісці да ўрача.

Амаль ўсе камісаваныя па гэтым дыягназе - навучэнцы ПТВ. Яны самі не жадаюць лячыцца, не турбуюцца пра асабістае здароўе, бо хвароба, безумоўна, мае вынікам парушэнне функцый дыхання, жавання. Прымусіць іх лячыцца - немагчыма. Сутыкнешся з парушэннем правоў чалавека.

Гэты прызыў выкрывае праблему, якая ставіць больш пытанняў, чым можна даць адказаў на іх. Стаматолагі кажуць, што існуе прыблізна 10% (з усіх хворых) цяжкіх паталогій, якія выправіць яны няздольныя. А калі магчыма, то, напэўна, і адмову ад лячэння можна лічыць дастатковай падставай для прыгоднасці нацягнуць вайсковыя боты?

***Святлана САРОКА.***

Пра тое, як у маладзечанскай дзіцячай стаматалогіі выраўноўваюць сківіцы, чытайце ў наступным нумары “РГ”.

# Смерць прыйшла у Маладзечна



Дваццаць другога верасня 1995 года 9 “Б“ клас Маладзечанскай СШ№9 вырашыў сфатаграфавацца на памяць. Наперадзе – цэлы год вучобы, а там – растанне. Хто пойдзе вучыцца ў ПТВ, хто ў тэхнікумы, хто застанецца ў школе. Сфатаграфаваліся, каб зноў праз колькі год сустрэцца ў гэтым самым складзе.

Жаданням не збыцца. 30 мая смерць вырвала з жыцця Насцю Бельскую, якая на здымку ў верхнім радзе трэцяя справа. Натоўп не чуў крыкаў аб літасці , што даносіліся з вузкага падземнага перахода ў Мінску.

Мы смуткуем разам з усімі.

***Калектыў “Рэгіянальнай газеты”.***

ПАДЗЕІ

# Першая Вілейская...

*27 мая ў СШ №4 Вілейкі прайшла першая краязнаўчая канферэнцыя “Вілейшчына: погляд у мінулае і сучаснасць”. Яна была наладжана пры актыўным удзеле аддзелаў адукацыі і культуры райвыканкома, таварыства краязнаўства Мінскай вобласці*

Ініцыятарамі правядзення выступіў Вілейскі гістарычна–краязнаўчы, яго старшы навуковы супрацоўнік **Вольга Коласава.** Яна зрабіла ўсё, каб канферэнцыя прайшла на належным навуковым узроўні. З цікавымі дакладамі выступілі краязнаўцы Вілейшчыны і навукоўцы з Мінска.

Вольга Коласава коратка і змястоўна пазнаёміла прысутных з самой ідэяй такіх канферэнцый. З грунтоўным дакладам “Гістарычныя камяні Вілейшчыны” выступіў вілейчанін **Аляксандр Зайцаў**, які дэталёва распавёў пра пра ўсе больш–менш вядомыя мясціны, дзе сустракаюцца адметныя і непаўторныя камяні–валуны, з гісторыяй якіх звязаны розныя паданні, легенды, былі.

Навуковец з Мінска **Эдвард Зайкоўскі** выступіў з дакладам “Помнікі язычніцтва на Вілейшчыне”. У некаторым ён супадаў з тэмай папярэдняга выступоўцы. Тым не менш, Зайкоўскі здолеў па тых нязначных рэштках нашай мінуўшчыны, якія засталіся, аднавіць карціну ранейшага жыцця, побыту нашых продкаў.

Выступленне мінчаніна **Станіслава Зубовіча**, мне здаецца, атрымалася не да канца прадуманым і таму крыху сумбурным. Ён выступіў з двума цалкам супрацьлеглымі дакладамі. Першы прысвечаны Тамашу Зану, а другі – на тэму жывога свету Вілейскага вадасховішча. Праўда, пры ўсім маім жаданні я так і не зразумеў, якое дачыненне да Вілейскага раёна мае Тамаш Зан. Калі б дакладчык хоць мімаходзь сказаў, што Зан паходзіў з былога Вілейскага павета, то ўсё станавілася б на сваё месца...

Выступленне **Анатоля Рогача** атрымалася аргументаваным і цікавым. Новыя звесткі, імёны і лёсы змагароў за волю і Беларусь на Вілейшчыне у такі цяжкі і адказны час (1794–1864 г.г.) незвычайна цешаць, усяляюць надзею на новыя пошукі і адкрыцці.

Навуковец са сталіцы **Людміла Дучыц** выступіла са змястоўным дакладам “Старажытны кацюм Вілейшчыны паводле археалагічных дадзеных”. Адчуваюцца глыбокія яе веды, эрудыцыя, апантаная захопленасць тым, пра што і як яна расказвала.

**Я. Будавей** выступіў з тэмай “Развіццё асветы на Вілейшчыне: мінулае і сучасна:” Асабіста я чакаў большага ад гэтага даклада. І не таму, што ён не ўдаўся. Як раз наадварот. Але мне хацелася пачуць і пра Вілейскую рускую прыватную гімназію, і Вілейскую беларускую настаўніцкую семінарыю. Толькі, на жаль, згадкі пра гэтыя навучальныя ўстановы не ўваходзілі ў тэму дакладчыка. Яна была больш рэгіянальнай і ўключала ў сябе звесткі пра родныя мясціны выступоўца. Тым не менш, даклад атрымаўся цікавым, багатым новымі фактамі. Было бачна, што краязнаўца шмат папрацаваў, рыхтуючы матэрыял.

Ініцыятар правядзення канферэнцыі Вольга Коласава расказала пра лёс ураджэнцаў Вілейшчыны – двух выдатных мастакоў Льва Альпяровіча і Мікадзіма Сілівановіча...

Канферэнцыя закончылася. Але засталося прыемнае пачуццё далучанасці да свайго роднага, шматвяковага і вечнага. Засталася надзея на новыя пошукі, знаходкі, тэмы, якія будуць працягваць апантаныя краязнаўцы Вілейшчыны.

***Язэп РОКАШ.***

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# У Крывічах з’явіўся вар’ят

**М. Смаргонь, Віленскай губ. Ошмянскага пав.**

Забастоўка гарбарэнь ужо скончылася – фабрыканты уступілі трохі проціў таго, што яны раней вымагалі ад рабочых, але і работнікі уступілі. Трэба сказаць, што фабрыканты жаліліся, што шмат тавару прападала. Цяпер яна так зрабілі, што за гэтым работнікі будуць самі глядзець. Усё–ж гарбарні тутэйшые падупалі трохі: у Расеі паактрывалі сваі гарбарні і адбіваюць гандэль смаргонскаму тавару.

Халодная весна зрабіла тое, што кругом па вёсках скаціна стаяла галодная бяз корму. Някі час у Смаргоні ня можна было купіць нават аднаго фунта масла. Прывозілі масла з Вільні.

Смаргонскі.

**Г. Радашковічы, Віленскай губ. Ошмянскага пав.**

Пры дэпо вольна пажарнай дружыны хочуць збудаваць дом, дзе маглі бы адбывацца тэатры, балі і розныя сабраньня.

Вецер.

**М. Крывічы Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Недаўна паказаўся ў нас нейкі вар’ят, каторы цягаецца па дарогах і, як толькі ўбачыць мужчыну ці кабеціну, зараз крычыць: “стой, я хачу на табе паездзіць”. Калі тые не згаджаюцца, то выймае нож і кажэ: “зарэжу, калі не паслухаеш”. Хоцькі–нехоцькі слухаць мусіш. Тады “ездок” кладзе свайму “каню” мест цуглёў нейкую костку, да каторай за мест лейцаў прывязаны шнуркі, садзіцца і коціць!

Гэтак, як паездзіў на аднэй, што ў цэнжы была, кабеціне, – то тая і Богу душу аддала, а другая такая самая, ешчэ цяпер хворая ляжыць; а то зайшоў гэты ездок да ўчыцельніцы Крывічэскаго вучылішча і кажэ: “давай 20 кап., а не, дык паезджу”; тая паслала па вурадніка, каторы выправадзіў гэтаго госьця вон, але пусціў на свабоду. Цяпер той ізноў нагаляе страху. Толькі адно дзіва: чаму гэты вар’ят, едучы на кабеце, калі ўбачыць мужчыну, чы пад’ежджае да вёскі, – злазе і ўцекае?

Варта было–б нашай паліцыі заняцца гэтым дзіўным вар’ятам!

Я. Ш–скі.

*Першая Беларуская Газета з Рысункамі “Наша Ніва” №21 ад 21 мая.*

**М. Маладэчна Вілейскага пав. Віленскай губ.**

Недаўна нейкі Бохвак уздумаў украсьці карову ў стоража на пераездзе Ново–Нікалаеўскай ж. д. каля маёнтку Вязоўца. Сторож прыпілнаваў злодзея, схапіў стрэльбу і, як толькі Бохвак вывёў карову, – грукнуў і палажыў яго на мейсцы.

Цыпрук.

**Г. Радашковічы, Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Пагода стала цёплая, прайшоў трохі дождж, і паля паправіліся і заселянелі. Калі і далей усё будзе добра, то можна спадзевацца ўраджаю.

На станцы Аляхновічы Л. Р. ж. д. будуюць цяпер новую мураваную станцыю, як–бы цэлы палац! Па нашаму мужыцкаму розуму было бы лепш гэтые 30–40 тысяч рублёў усадзіць на папраўку дарог, што вядуць да станцыі.

Гасьцінец.

**М. Гарадок, Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Нашэ мястэчка ня мела доктара; калі хто захварэе, то доктара трэба было прывазіць здалёку. Багаты гэта мог зрабіць, а беднаму – як прыдзецца. Не памрэць – добра, а памрэ – пахаваюць.

Нашы мястэчкавыя людзі прыдумалі так. Яны пастанавілі, што соль мае права прадаваць толькі адзін купец, а за гэту “манаполію” ён плаціць 600 рублёў у год. Гэтые 600 руб. ідуць ужо доктару. Цяпер у нас доктарам Соколов, рускі, чалавек добры і добра лечыць, хаця–ж гэтых грошы на жыццё яму трохі нехват.

Гарадэцкі.

*Першая Беларуская Газета з Рысункамі “Наша Ніва”. №22 ад 28 мая.*

***Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ, Мядзел.***

*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Крыжаванка

**ад Аляксандра Касцюковіча з в. Крывое Сяло Вілейскага р–на**



**Па гарызанталі:**

3. Надпіс на канверце. 5. Час, на працягу якога вядзецца бой. 8. Чалавек як член грамадства. 12. Група "... – лімітэд". 13. Згустак крыві. 14. Кароткі выраз з павучальным зместам. 19. Самец качкі. 20. Кухня на судне. 21. Слова, запазычанае з рускай мовы. 22. Злучэнне азоту з вадародам. 26. Сярэбраны злітак вагою з фунт. 27. Права на выраб, продаж чаго–небудзь. 28. Блін з дранай бульбы. 31. Аб'ява аб маючых адбыцца канцэртах, гастролях. 34. Старыя рэчы. 37. Вузкая паласа знізу драўлянай восі (у калёсах). 40. Плыт для пераправы праз раку. 41. Бурштын. 42. Прастора за межамі атмасферы. 43. Гаручае рэчыва раслiннага паходжання. 44. Невялікі магазін. 47. Мяшок для прадуктаў. 48. Майстэрства пілатаваць. 49. Норма чаго–небудзь. 50. Гучная прылада для земляных работ у выглядзе завостранага малатка з доўгай ручкай. 57. Вусце ракі. 58. Нарыс або апавяданне невялікага памеру. 59. Адрэзак часу. 62. Нямецкі фізік. 63. Даўней: святочны базар. 65. Іван Дамінікавіч Луцэвіч. 66. Каштоўны камень. 69. Імя Я. Коласа. 70. Узаранае поле. 71. Астатак недагарэлай свечкі. 72. Рэчы, спакаваныя для перавозкі. 73. Белае рэчыва, якое выкарыстоўваецца для будаўніцтва. 74. Няшчасны чалавек.

**Па вертыкалі:**

1. Найлепшы ўзор. 2. Вялікае памяшканне для жывёлы. 4. Аматар. 6. Вінтоўка з пакарочаным ствалом. 7. Задума, замысел. 9. Наўмысна няправільна пабудаваная выснова. 10. Той, хто мае найбольшыя шанцы на перамогу. 11. Азімыя культуры. 15. Хваёвы лес на поўначы Еўропы і Азіі. 16. Шырокая прастора. 17. Накід малюнка. 18. Палка з загнутым канцом для апоры пры хадзьбе. 23. Пісьмо без подпісу. 24. Заключэнне. 25. Разубрэнне паверхні зямлі вадой, ветрам. 29. Прыбор для вымярэння хуткасці руху паветра. 30. Навуковая сістэма, у якой даследуюцца ўзаемаадносіны паміж рознымі тыпамі якіх–небудзь з'яў або прадметаў. 32. Рэчыва, падобнае да воску. 33. Сорт. 35. Нагляд за кім–небудзь. 36. Вяроўка з пятлёй для лоўлі жывёлы. 38. Нормы паводзінаў чалавека ў грамадстве. 39. Земляроб. 45. Навучанне, адукацыя. 46. Выканаўца песні "Орёл" або воінскае званне. 47. Няпраўдзівае абвінавачванне. 51. Рай. 52. Самы буйны марскі карабель флатыліі. 53. Гандлёвае прадпрыемства. 54. Калектыў артыстаў тэатра, цырка. 55. Мясцовая гаворка. 56. Крайняя ступень безнадзейнасці. 60. Няўдача, правал. 61. Лірычны верш, прасякнуты журботным настроем. 64. Шэраг велічынь. 65. Французскі вучоны. 67. Зборнік геаграфічных карт. 68. Вялікі клавішны музычны інструмент.

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №22.***

**Па гарызанталях:** 1. Мараль. 6. Азімут. 10. Багаж. 11. Навука. 12. Зломак. 13. Убоства. 14. Танк. 17. Анты. 18. Шалік. 19. Крона. 24. Кабалістыка. 25. Пілот. 27. Латок. 28. Антысептыка. 32. Чарга. 33. Фірма. 36. Крок. 38. Абоз. 39. Конаўка. 41. Аналіз. 42. Малако. 43. Гідра... 44. Аматар. 45. Баласт.

**Па вертыкалях:** 1. Манета. 2. Рэванш. 3. Лука. 4. Шайба. 5. Канструкцыя. 7. Зала. 8. Момант. 9. Тактык. 12. Звяно. 15. Карагод. 16. Фініш. 20. Накат. 21. Стэнаграфія. 22. Сістэма. 23. Конка. 26. Сесія. 29. Завоз. 30. Скнара. 31. Волава. 34. Абраза. 35. Узрост. 37. Скарб. 39. Кіпа. 40. Капа.

*СМАЧНА ЕСЦІ*

## Апалены полымем пірог

280 г мукі, 150 г масла, 10 г цукровай пудры, 1 яйка, 1 кг яблыкаў, 1 лімон, 50 г грэцкіх арэхаў, 1 мал. лыжка карыцы, 12–15 г ванільнага цукру, каліва гваздзікі, 1/3 шклянкі абрыкосавага мармеладу, 60 г каньяку.

Муку прасеяць. Дадаць цукровую пудру, яйка, размяклае масла і замясіць цеста. Пакінуць яго ў холадзе на 2 гадзіны.

Яблыкі абабраць ад скуры, асяродкаў. Парэзаць частачкамі і насыціць лімонным сокам. Усё, што засталося ад лімона, сцерці на дробнай тарцы.

Змяльчыць грэцкія арэхі. Дадаць карыцу, ванільны цукар, каліва гваздзікі, цэдру лімона. Змяшаць.

Цеста раскатаць у муцэ. Выкласці на бляху. Відэльцам панаколваць у розных месцах, каб яно пры выпечцы не выгіналася. Абсыпаць паверсе арэхавай сумессю і роўна выкласці на цеста частачкі яблыкаў.

Духоўку папярэдне добра прагрэць. Пірог выпякаюць 30–40 хвілін. Адразу пасля вымання змазаць паверсе абрыкосавым мармеладам. Каньяк наліць у апалонік, амаль давесці да кіпення і асцярожна падпаліць. Паабліваць ім пірог.

## Кубінская фасоля

500 г маладой зялёнай фасолі, 3 яйкі, 40 г мукі, 60 г тлушчу, соль, зеляніна пятрушкі.

Стручкі фасолі прамыць і абчысціць ад валокнаў. Зварыць у падсоленай вадзе, каб яны стаялі мяккімі. Зліць ваду.

Жаўткі і бялкі яек паўзбіваць паасобку, потым асцярожна змяшаць, дадаць зеляніну пятрушкі.

Абсмальваць фасолю на вялікім агні ў тлушчы, папярэдне кожны стручок абваляць у муцэ і яйках.

## Глінтвейн "Застольны"

0,5 л чырвонага віна, 200 г цукру, 4–5 шт. гваздзікі, цэдра лімона, 50 г каньяку, карыца.

Выліць віно ў каструлю, дадаць цукар, гваздзіку, каліва карыцы, цэдру лімона.

Разагрэць, але не даводзіць да кіпення. Адцадзіць і ўліць сюды каньяк.

Глінтвейн п'юць гарачым.

***Святлана САРОКА.***

*ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ*

***Нагадваем, што ў гэтай рубрыцы рэдакцыя мяркуе змяшчаць гісторыі пра анекдатычныя выпадкі з жыцця. Дасылайце іх у рэдакцыю. Аўтар лепшай гісторыі будзе мець магчымасць змясціць у «РГ» 3 прыватныя аб''явы – па–за чаргой і бясплатна. І атрымае павышаны ганарар. Дасылайце свае апавяды, адзначайце тыя, што найбольш спадабаліся.***

## "Карусель, карусель, унеси за тридевять земель!" – у-ух!..

У дом для псіхічнахворых патрапіў мужчына, які ўвесь час хадзіў па пакоях і гаварыў: "У-ух, у-ух". Калі ў яго спыталіся, чаму гаворыць толькі гэта, той расказаў анекдатычную гісторыю, якая здарылася з ім і яго сябрам. Не сумняваемся, многія з чытачоў прыгадаюць падобныя (па схеме) моманты з жыцця свайго ці знаёмых. Горад, дзе ўсё адбылося, натуральна, не называем.

Сабраліся яны неяк удваіх з сябрам ды вырашылі праведаць свайго старога таварыша, які працаваў атракцыёншчыкам у парку. Прыйшлі да яго, вядома, не з пустымі рукамі. Неўзабаве завязалася сяброўская гаворка, а затым, пасля канкрэтнай дозы, захацелася і пакатацц... Атракцыёншчык уключыў каруселі, а сам пакуль прылёг трошкі адпачыць. Натуральна, заснуў салодкім сном на свежым паветры. Ягоныя сябры–небаракі накаталіся, пачалі клікаць сябрука, але ж нічога ў іх не атрымалася.

Так і каталіся ўсю ноч. Падраніцу толькі (апусцім дэталі) гаротных карусельшчыкаў вызвалілі; адзін з іх трапіў у "псіхушку". Праўда, праз тры дні мужчына ачуняў і яго адпусцілі дахаты.

***Анжаліка АРАБІНКА.***

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## На курорце жартуюць

– Прасіцеся ў трэці корпус, – такую параду даюць тыя адпачываючыя, хто раней прыбыў у санаторый "Нарач", калі сустракаюць жанчыну, якая спяшаецца ў здраўніцу з вялікімі клункамі ўбораў і шукае кабінет рэгістратара.

Пасля такой парады недасведчаная жанчына настойліва просіцца ў трэці корпус. Рэгістратарка ўсміхаецца і кажа:

– У нас усяго толькі два корпусы.

– А мне сказалі, што тры, і ў трэці трэба прасіцца.

Рэгістратарка:

– Трэці корпус пры жаданні можаце адшукаць самі. Гэта вунь той лясок, куды парамі ходзяць адпачываючыя.

***Міхась ЧАРНЯЎСКІ.***

*ГАРАСКОП 7 – 13 ЧЭРВЕНЯ*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Вам давядзецца раскашэліцца і ўкласці вялікія сродкі ў новы праект. Узмоцненая вучоба чакае студэнтаў, а хатніх гаспадыць – дадатковыя клопаты. Магчыма, і з–за таго, што на выхадныя да вас завітаюць сябры ў надзеі пабаляваць за вашым багатым сталом.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Вас чакае высокая і даўно заслужаная дзяржаўная пасада – тыдзень пройдзе ў чаканні прызначэння на яе. Цудоўна ўсё будзе ісці ў асабістым жыцці, вось толькі справы не дадуць шмат удзяліць увагі блізкаму для вас чалавеку. А яму цяпер вельмі няпроста.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Разлічыцеся з даўгамі. Тыдзень будзе ў мітусні, справах і клопатах. Галаву будуць забіваць розныя фінансавыя праблемы, некаторыя з якіх вы някепска вырашыце. Цудоўнай палавіне з–пад гэтага знака давядзецца разрывацца паміж домам, пагоняй за грашыма і работай. Грошы ў сям'ю вы прынесяце.

**РАК (22.06–23.07)**
Вашая ўпартасць будзе ўзнагароджаная – вы выйграеце важнае дзелавое спаборніцтва. Магчымае важнае прызначэнне, умацаванне кар'еры. Прафесіяналаў кіраўніцтва ўзнагародзіць, а камерсанты пачнуць падрыхтоўку да шматабяцальнай здзелкі.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Адчуеце прывабнасць трывалага фінансавага становішча. Вашымі думкамі і меркаваннямі будуць цікавіцца ўсе вакол. Аднак не адкрывайце ўсіх тайнаў, бо з'явіцца больш удачлівы сапернік. У другой палове тыдня тэрмінова давядзецца ўрэгуляваць праблемы ў сям'і.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Перспектывы ў бізнесе. Скарыстайце дапамогу калег – вам патрэбнае "пачуццё локця". Не выключана, аднак, і дапамога адной уплывовай асобы, хаця яе ўвагі вы будзеце дамагацца з вялікай цяжкасцю і стараннем. Няпростыя стасункі з роднымі, але вы навучыцеся лепш іх разумець.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Любыя прынятыя цяпер рашэнні прынясуць вялікія вынікі ў будучым. Давядзецца перагледзець умовы праекта, у які вы ўклалі шмат сродкаў. Азірніцеся навокал і заўважце чалавека, які даўно гатовы дзяліць з вамі поспехі і няўдачы. Вы не пашкадуеце, калі згодзіцеся з яго прапановамі.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Распачынайце бізнес у новым раёне, хаця з радасцю вас там не чакаюць. Аднак усё пачатае на гэтым тыдні завершыцца паспяхова і прынясе даходы. Іх, дарэчы, можа абяцаць прапанова ад замежнага партнёра стварыць сумеснае прадпрыемства.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Паставіце на карту будучыню, калі распачнеце новы праект. Ажыццявіцца мара тых, хто даўно хацеў стаць кіраўніком. Удалы тыдзень для навукоўцаў і творцаў – іх чакаюць новыя адкрыцці і агульнае прызнанне. Ваеннаслужачыя атрымаюць, хутчэй за ўсё, новыя званні, а чыноўнікаў амаль абавязкова перавядуць на іншую работу. У юных – рамантычныя прыгоды, магчыма, у гарах.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Актыўныя справы з замежжам у сферы вучобы і бізнесу. Добра бавіць час у замежных падарожжах. Не хвалюйцеся, замежжа вам дапаможа ва ўсім.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Магчымасць пачаць добры дзелавы праект; выкананне яго прафінансуюць сябры або нават дзяржаўная арганізацыя. Можаце добра разгарнуць бізнес за мяжой. Хуткі поспех у журналістыцы, рэкламе. Займайцеся гэтым, а пра хатнія справы не турбуйцеся – яны і так будуць ісці цудоўна.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Вам моцна пашанцуе. Іншыя вам будуць толькі зайздросціць на гэтым тыдні. Праўда, каб дасягнуць поспеху, вам трэба будзе добра папрацаваць, але ж на Усходзе кажуць, што без працы і турбан на макушцы не накруціш.

